Цана асобнага нумару 20 грошаў.

# Сын Беларуса

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

**Выходзіць тры разы у тыдзень.**
Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 злотыя**
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 27. Вільня, Пятніца, 15-га жніўня 1924 г. Год I.

## Усё пастараму.

Сучасная палітыка польскае дзяржавы ў адносінах да сваіх нацыянальных і рэлігійных меншасьцяў была абаперта на тым, што вонках Польшчу забясьпечывала магутная Францыя, і польскія палітыкі, не баючыся заменжных ворагаў, распачалі непрымірымую барацьбу з тымі, хто—слушна, ці няслушна, — быў абвешчаны „ўнутраным“ ворагам. І здавалася, што, маючы забясьпечаны фронт вонкавы, Польшча з поўным спакоем магла ждаць на ўнутраным фронце лёгкае перамогі.

Але гэта толькі здавалася. Бо-ж тутака выйшла ўсё паводле вядомага фізычнага закону, што ўсякая дзейнасьць вызывае роўную ёй, толькі скіраваную ў процілежным кірунку *працідзейнасьць*. Як ні мала былі нацыянальна совядомымі беларускія масы ў мамэнт прыходу ў Заходнюю Беларусь польскае ўлады, гады польскага панаваньня і палітыка грубае,—кажучы папольску: „брутальнае“—дэнацыяналізацыі і апаляччываньня нашага народу былі для беларускага сялянства найлепшай школай нацыянальнага і сацыяльнага усьвеламленьня. Беларусы, прымушаныя *барацьбу* ад польскіх захватных імкненьняў, вытварылі ў сабе вялізарную адпорную сілу — цяпер ужо зусім сьвядомую, а адгалоскі гэтае барацьбы нашага і другіх народаў Польшчы за самае сваё істнаваньне пракаціліся гулка па ўсім сьвеце.

Мала таго: тое вонкавае забясьпечаньне, якое мела дагэтуль Польская Рэспубліка дзякуючы істнаваўшым у Вэрсальскай Эўропе палітычным адносінам, пачынае губляць сваю сілу: не дарма польскі пасол у Лёндоне, п. Скірмунт, напамінае пану Эрыо аб „асаблівым палажэньні Польшчы“, якое вымагае, каб пры сучасным *новым міры* з Нямеччынай саюзная Францыя не забыла аб нямецкай небясьпецы для істнаваньня Польскага гаспадарства... І не дарма орган польскіх нацыяналістаў „Gazeta Warszawska“ б'ець на трывогу, кажучы:

„Як-бы ні выглядалі далейшыя пасьледзтвы лёндонскага кампрамісу, зробленага цаной аднастаронных уступак Францыі, — ясна, што яны ў найвялікшай меры павінны абхадзіць такжа і польскую палітыку. Узрост магутнасьці Нямеччыны і спадзяваныя перамецы ў укладзе сіл у Лізе Народаў вымагаюць ад нашае дыпламатыі ўзьвялічанае чуткасьці, але і новых спосабаў дзейнасьці і новае ініцыятывы“.

Здавалася-бы, што, раз вонкавы фронт робіцца далёка ня так ужо бясьпечным, якім ён быў дагэтуль, дык, шукаючы сабе забясьпечаньня, трэба аслабіць напружаньне барацьбы на фронце ўнутраным. Але кіраўнікі польскае дзяржаўнае палітыкі ня хочуць шукаць выхаду з палажэньня ў гэтым кірунку. Якбыццам правакаваныя самымі заклятымі ворагамі Польшчы, яны не аслабляюць, а, наадварот, узмацовываюць напружанасьць барацьбы, прыкладам, з беларусамі.

Бо-ж паглядзеце самі: прызнаўшы афіцыяльна—самым *фактам* выданьня „языковых“ законаў—беларускасьць Віленскага, Навагрудзкага, Палескага і часьці Беластоцкага ваяводзтваў, польскі ўрад абсалютна нічога ня робіць, каб правясьці гэтыя законы (хаця і так крыўдныя для нашага народу!) у жыцьцё. Урад [illegible] году—ані пальцам ня крануў дзеля таго, каб стварыць *магчымасьць* нават дзеля гэнае дзікое выдумкі п. п. Грабскага і Тугутта, якой зьяўляецца у нас „двуязычная“ школа! А аб падгатоўцы ўрадоўцаў да ўрадаваньня пабеларуску няма і гутаркі,—толькі ходзяць чуткі, быццам навагрудзкія „кацыкі“ зьбіраюцца ўжо завадзіць *асобную плату* за беларускія пераклады ўрадовых адказаў, бо... ў „языковых“ законах ня сказана, што яны—дармовыя!

Затое мы ведаем, што з Варшавы прыйшоў загад нанятым за грошы крымінілістам зрабіць яшчэ адзін — палітычны крымінал і сфабрыкаваць „нацыянальнае прадстаўніцтва“ беларускага народу, якое перад заграніцай магло-бы фальшаваць голас нашага насяленьня і расьпісывацца за яго, быццам яно „ўсім чым давольна“ пад польскаю ўладаю... І зусім зразумела, што народ ня можа верыць тым, хто баіцца ягонага праўдзівага голасу, высказанага ўсенароднымі выбранцамі — нашымі дэпутатамі з соймавае трыбуны!

Значыць, аб злагоджаньні барацьбы на ўнутраным фронце нават і пры новых вонкавых варунках Польшча ня думае. І ў новых варунках у нас усё будзе пастараму, калі... калі ня будзе горай.

## „Новы дух“ у Польшчы.

### I. „Уражэньне на Захадзе“...

Ня так даўно найразумнейшая з польскіх газэтаў—„Kur. Polski“ падала вестку аб тым, што напісала „найвялікшая з англійскіх газэтаў“ — „Times“—аб новых польскіх „языковых“ законах і аб дзіўных для англійскага розуму адносінах да іх з боку „меншасьцяў“, якія маюць карыстацца з „дабрадзействаў“ гэтых законаў.

„Найвялікшая англійская газэта“ быццам-то прызнае новыя законы „шмат лібэральнейшымі ня толькі за пастановы трактатаў (Вэрсальскага і Рыжскага), але нават — за самую польскую Канстытуцыю!“ Бо „трактат, напрыклад, быццам-то не вымагае ад польскага ўраду ўтрыманьня няпольскіх школаў, трэбуе толькі вольнасьці для разьвіцьця прыватнага школьніцтва меншасьцяў“...

Далей, дзіўна інфармаваная газэта сцьвярджае (—з Лёндону!) „поўную быццам адсутнасьць духоўнага кантакту з масамі прадстаўляючых іх беларускіх і украінскіх паслоў, якія выражалі сымпатыю для ССРР...“ і—асуджае гэтую сымпатыю да Радаў, высказываючы свае *англійскае* зьдзіўленьне гэтаму „недарэчнаму“, як дэлікатна перакладае польская газэта,—точна: *дурному*, як сказана ў англійскім арыгінале („foolish“!) адношаньню беларусаў і украінцаў да ласкі і дабрадзействаў польскага ўраду.

Польская газэта радзіць „меншасьцям“ чытаньне гэтага артыкулу найвялікшае англійскае газэты, бо „гэта паможа ім зразумець, які эфэкт робіць на Захадзе іх паступаньне“...

„Добра будзе, калі яны—меншасьці ў зьвязку з гэтым будуць крэпка помніць гэтае слова — „foolish“, ядавіта канчае „Kur. Polski“.

І вось не прайшло і колькі дзён, як гэтая быццам „англійская апінія“ аб польскіх законах аказалася чыста-польскай містыфікацыяй „найразумнейшай польскай газэты“. Жыдоўская прэса ў Варшаве выясьніла, што гэты *быццам адказны артыкул* англійскай газэты зьяўляецца толькі тэлеграмай, ці папросту *карэспандэнцыяй з Варшавы* і носіць на сабе ўсе адзнакі таго ўрадовага „*Аддзелу Прапаганды*“, які гэтак нядаўна быў арганізаваны міністрам загр. спраў Замойскім!

„Англійская“ ці наагул „заходняя“ апінія была папросту *сфабрыкавана ў „прэсавай канцэлярыі“ варшаўскага ўраду*.

Вось як лоўка „найразумнейшая польская газэта“ „фуліць“ людзям галовы і ашуківае сваіх чытачоў.

### II. Тлумачэньне ў сябе дома...

(Інтэрвью з праф. Ст. Грабскім).

Віленская жыдоўская газэта „Ді Цайт“ зьмясьціла цікавую размову свайго супрацоўніка з меўмым у Вільні свае знамянітыя лекцыі аб гэтых самых „языковых“ законах іх тварцом, павадыром эндэцыі і недайшоўшым міністрам (дойдзе яшчэ!..) для меншасьцяў, Стан. Грабскім.

Тут, у сябе дома, польскі „лібэралізм“ размаўляе з *падуладнымі* яму меншасьцямі зусім інакш—бо зусім *як з падданымі*! — На пытаньне, як аўтары законаў, а перадусім сам праф. Грабскі, адносяцца да няпрыхільных адносін меншасьцяў да гэтых законаў, п. Грабскі ўжо не апэляваў да „розуму“ і ўласнай карысьці меншасьцяў, як рабіла гэта на Захадзе „англійская апінія“ варшаўскай фабрыкацыі, але ўжо зусім іншым — сурова-паліцэйскім тонам адказаў, што ніякае „становішча меншасьцяў“ яго зусім ня цікавіць“: бо— „гэта—законы, прынятыя Соймам“, і меншасьці, хочуць ці ня хочуць, але „*павінны іх спаўняць*“.

„Меншасьці забываюцца часта аб сваім палажэньні ў Польшчы“, дадаў брат п. прэм'ера.

„Забываюцца такжа“ і аб тым, што яны „нідзе ня маюць гэткіх шырокіх правоў, як у Польшчы“!

І ўжо зусім па-паліцэйску пан прафэсар дадаў, што „трэба асабліва запісаць паступаньне іх паслоў на апошніх паседжаньнях Сойму!“

### III. Спаўніцелі на мясцох.

У адным з апошніх нумяроў газ. „Robotnik“ надрукавана таксама вельмі цікавае пісьмо пэпэсаўскага сэнатара Познэра, у якім падаецца зьмест атрыманага аўтарам лісту ад аднаго „высокага польскага ўрадоўца“—аб яго ўражэньнях з „Крэсаў Усходніх“...

Гэты варшаўскі „дастойнік“, едучы з ССРР да Варшавы праз Баранавічы, прыслухоўваўся там... у рэстаране (!) да размоваў аб меншасьцях мясцовых баранавіцкіх „дастойнікаў“ і пачуў нешта *назьдзіў падобнае да таго, што казаў на сваей лекцыі ў Вільні праф. Грабскі!..*

„Вось,—казаў гэткі крэсавы „кацык“, які, відаць, хутка і спрытна, усвоіў сабе „новы дух“ грабска-тугуттаўскай эры ў адносінах польскай дзяржаўнасьці да меншасьцяў, — „атрымаў я з Варшавы цыркуляр, каб да меншасьцяў аднасіцца таксама, як і да іншых інтарасантаў... Чаго ўжо ня было на маім вяку!..

„Я ўжо маю свой звычай! — Як прыедзе да мяне жыд са скаргай, дык я яго ніколі ня прымаю раней, *як а палове другой*, бо апошні цягнік ідзе *а першай* гадзіне,—дык ён мусіць начаваць, а гэта-ж для яго — лішні кошт! Дык другі раз—больш падумае, ці ісьці на скаргу да мяне, ці ня йсьці... А калі прыйдзе беларус і прынясе скаргу ў сваім „нарэччы“, дык я яго ветлівенька папрашу, каб ён даў тую паперку перакласьці. Не па злосьці,—кажу яму я,—прашу, і ня дзеля таго, што ты ня маеш права пісаць у сваей мове, а толькі дзеля таго, што я ня ўмею па-беларуску—не пасьпеў навучыцца. Дык вось, папрасі, каб пераклалі на польскую мову. Хлоп паскрабе патыліцу і пойдзе шукаць перакладчыка. А гэтаму-ж трэба плаціць. Дык і беларус добра надумаецца, пакуль прыдзе другі раз у Баранавічы“...

Гэтак размаўляюць благадушна,—бо ў рэстаране „за кялішкам“ — мясцовыя кацыкі „ў духу часу“... А як тыя-ж самыя кацыкі адказываюць на скаргі ў *сябе*—ў канцэлярыях, габінэтах, дык гэтага ўжо не пачуе ніколі ніводзін варшаўскі дастойнік...

---

Можа з усяго, сабранага вышэй зусім прыпадкова, „англійская“, ці наагул заходняя апінія ляпей зразумее, дзеля чаго непапраўныя меншасьці паўтараюць з упорствам, запраўды дастойным лепшага лёсу, словы пасла Тарашкевіча — „Баімося данайцаў—нават тады, калі яны нясуць нам свае дары“...

***Ніколі не зьнішчажай сваей беларускай газэты! Прачытаушы, давай суседу, ці знаемаму, каб і ён пазнау прауду аб жыцьці свайго народу і даведауся, што робіцца на сьвеце!***

# З кніжных выставак у Празе.

(*Ад нашага карэспандэнта*).

Апошнімі месяцамі г. г. мне ў Празе ўдалося адведаць дзьве кніжныя выстаўкі—украінскую (ў красавіку) і расейскую (ў чэрвені).

Як адна, так і другая выстаўка мелі на мэце скамплектаваньне сваіх кніжак, па магчымасьці, ўсіх замежных выданьняў. Не затрымоўваючыся на тым значэньні, якое, бязумоўна, маюць гэтыя выстаўкі тут, за межамі, затрымаюся крыху на тым, якое ўражэньне вынес я адтуль.

Мушу адзначыць, што па пастаноўцы справы выставак ёсьць паміж імі вялікая розьніца. У той час, як расейская выстаўка займала вялікую гістарычную салю Карлёвага Унівэрсытэту ў „Клемэнтынуме“, украінская выстаўка тулілася ў невялічкім пакоі, ды да таго „амаль не пад небам“ (бо ён нешта на 6-ым паверху), хаця-ж на аднэй з галоўных вуліцаў).

Аднак, ня гледзячы на некаторую, так сказаць, камфортнасьць памяшчэньня расейскай выстаўкі, што не зьмяняе вартасьці выстаўкі, адзначу, што на украінскай выстаўцы чулася ўтульнасьць. Тут была запраўды крапатлівая падрыхтовачная праца да выстаўкі, што і выяўлялася ў разьмяшчэньні кніжак, якія, ня гледзячы на недахват мейсца, былі ўложаны памастацку. Множства каштоўных выданьняў, кніг прыгожага пісьменства, з якіх мушу адзначыць асабліва Шаўчэнкаўскія творы, а таксама кніжак з розных іншых галінаў навукі, мастацтва, тэхнікі і др., як арыгіналаў, так і перакладаў, усё дае чуць, што ўкраінскі народ, які змагаецца за сваю незалежнасьць, імкнецца аканчальна вызваліцца спад чужацкіх уплываў і ў першую чаргу дабіваецца гэтага вызваленьня праз родную кнігу. На выстаўцы шмат можна было знайсьці кніжак ня толькі выданых на украінскай мове, але таксама і ў іншых мовах; гэтак пераклады з украінскага на нямецкую, чэскую, анлійскую мовы і др. Нязвычайна цікавы аддзел прадстаўлялі на выстаўцы украінскія часопісі, якія выдаваліся і выдаюцца украінскай эміграцыяй амаль ува ўсіх кутках зямное кулі. Агулам уражэньне ад украінскай кніжнай выстаўкі пакідаецца дужа, дужа прыемнае і нагадваецца моцна праца, знаёмая і нават да пэўнай меры аднолькавая ў адраджэньні беларускага народу, чаго зусім ня чуецца на расейскай выстаўцы.

Расейская кніжная выстаўка, як і звычайна які небудзь факт у жыцьці расейцаў у Празе, была адчынена дужа ўрачыста. Спаміж гасьцей на адчыненьні быў міністар д-р Гірса, старшыня Чэскае Акадэміі Навук праф. Зубаты, а таксама і Е. Карскі (прыехаўшы на „ўсеславянскі“ зьезд з Рад. Саюзу) і шмат др. Прамаўлялася шмат аб значэньні гэтае выстаўкі і падкрэсьліваліся яе недахваты, як то: адсутнасьць пэўнага сыстэматычнага паказчыка друкаваных кніг па гадох; няпоўнасьць выстаўкі і др. На выстаўцы прадстаўлена некалькі значных замежных фірмаў, з якіх трэба адзначыць „Пламя“, „Гейша“, Ладыжнікоў“ і „Слово“.

Апрача замежных выданьняў ёсьць шмат кніг з Радавай Расеі, а таксама экспанаты з „Архіва Расейскае Рэвалюцыі“. У дыяграмах і картах прадстаўлена характэрыстыка чычачоў з расейскай бібліатэкі ў Празе „Земгора“ (налічваючай больш за 3.000 чытачоў), па мейсцу нараджэньня, нацыянальнасьці і г. д. (беларусы складаюць 2,5%). Шмат выстаўлена расейскіх часопісей, да якіх чагосьці устаўлена, паміж розных чарнасоценных (да прыкладу: „Руля“ і інш.,), газэты беларускія: „Сын Беларуса“ і „Беларускае Слова“? Што яны з расейцамі маюць супольнага?! Дзівіць таксама і хранолёгія расейскага друку, гдзе на першым мейсцы стаіць імя беларускага друкара „Ф. Скорины“. (Хаця-б напісалі поўнасьцю імя Францішак?!) Словам, усе сьмешныя памылкі „па старым замашкам“!

Здаецца, пара-б і нам беларусам падумаць аб выстаўцы нашае кнігі. Ці ня быў-бы найлепшым часам — 400-ія ўгодкі друку на Беларусі ў 1925 годзе? **М. І.**

Прага.

**Ад Рэдакцыі**: Праект Выстаўкі Беларускае Кнігі на 400-летні Скарынінскі Юбілей апрацовываецца ўжо Беларускім Навуковым Таварыствам у Вільні.

# Палітычныя падзеі.

## Завастрэньне забастоўкі на польскім Сьлёнску.

„Станоўчая пазіцыя“ прамыслоўцаў і ўраду дае плады... Адначасна з нарадай міністра працы ў Катавіцах склікаецца кангрэс дэлегатаў профсаюзаў, на якім мае быць прынята рэзалюцыя аб завастрэньні забастоўкі. Каб націснуць на прамыслоўцаў і ўрад, можна чакаць, што кангрэс спыніць і тыя неабходныя работы, якія пакуль што былі выняты з забастоўкі. На кангрэсе мае быць прынята рэзалюцыя і аб далучэньні да забастоўкі прадстаўнікоў умысловае працы.

„Dz. Wil.“.

## Забастоўка ўмысловых працаўнікоў.

З Катавіцаў наказуюць, што на сабраньні прадстаўнікоў умысловай працы 12-га жніўня пастаноўлена абвясьціць на 48 гадзін забастоўку салідарнасьці з работнікамі і пратэсту проці гвалту над здабытымі імі правамі.

## Ізноў арышты камуністаў у Варшаве.

11-га жніўня ў Варшаве палітычная паліцыя зрабіла вобыск у памешканьні клюбу камуністычнай моладзі—ў часе паседжаньня. Усіх прысутных арыштавалі. Канфіскаваны адозвы, пратаколы і іншыя матар'ялы. У зьвазку з гэтым зроблена шмат вобыскаў і арыштаў па ўсей Варшаве.

## Яшчэ напад — на Валыні.

8 жніўня на Валыні, у Дубенскім павеце, ізноў банда з 30 асоб напала на в. Вярхоўцы, зрабавала 12 каней, спаліла шмат будынкаў. Ніводзін бандыт ня злоўлены...

## Мілітарызацыя паліцыі.

У Варшаве адбываюцца нарады паміж міністэрствам унутр. спраў і ваенным у справе мілітарызацыі паліцыі.

Дзеля таго, што гэтая „рэформа“ вымагае расходаў, прышлося дзеля аканчальнага вырашэньня справы пачакаць павароту з Галічыны прэм. Грабскага.

Па дамаганьню галоўнага каманданта паліцыі, незалежна ад вышэйшага, міністар скарбу, п. Грабскі, згадзіўся павялічыць выдаткі на крэсавую паліцыю на 3 міл. злотых, што дасьць кожнаму паліцэйскаму павялічэньне пэнсіі на 75 працэнтаў — амаль не ўдвая! Каб ня было пакусы на іншыя „даходы“, нават і „закардонныя“...

## С.С.Р.Р. і Ліга Народаў.

Вядомы дзеяч на міжнародавым полі Нансэн стараецца скланіць урад ССРР, каб не чакаючы, пакуль ССРР увойдзе ў склад Лігі, на верасьнёвую сэсію яе прыслаў ад сябе дэлегата толькі дзеля інфармацыі.

Урад ССРР на гэта адказаў, што, пакуль Швайцарыя ня дасьць ССРР здавальненьня за забойства на яе тэрыторыі Радавага пасла Вароўскага, урад ССРР ня можа пасладь у Жэневу свайго прадстаўніка.

## Да радава-францускай умовы.

Пасьля спаўненьня сваей місіі ў Лёндоне радавая дэлегацыя сьпешна выедзе ў Парыж, каб там весьці перагаворы аб франка-расейскім дагаворы.

У перагаворах будзе прымаць учасьце, апрача Ракоўскага і Літвінава, яшчэ і радавы пасол у Бэрліне Крэстінскі.

## Праціваенныя дэманстрацыі ў Маскве.

У Маскве і ў іншых местах ССРР адбыліся 2-га жніўня шматлюдныя маніфэстацыі проці вайны — пад лёзунгам: „Вызваленьне сьвету ад новых войнаў — у дыктатуры пралетарыяту!“.

## Новыя пагрозы камуністычнай акцыі.

Польская львоўская газэта падае гэткія весткі аб маючым адбыцца ў Маскве ў канцы жніўня „зьезьдзе кіраўнікоў сабатажнай акцыі на тэрыторыі варожых дзяржаў“. Плян гэтай акцыі абыймае зьніштажэньне мастоў і вагзалаў на чыгунках, а такжа варштатаў, заводаў і фабрык, перадусім ваенных матар'ялаў, арганізацыю забастовак, камуністычных ячэек ў прамысловых раёнах, вугальных абшарах і г. д. Уся гэтая акцыя мае асабліва павялічыцца ў зьвязку з „спадзяванымі ў бліжэйшай будучыне вялікімі і гвалтоўнымі здарэньнямі нячуванай важнасьці“.

## Камуністычная змова ў Эстоніі.

У Таліне (Рэвэль) выкрыта паліцыяй вялікая змова камуністаў, ахопліваўшая ўвесь край і меўшая мэтай зваліць урад, захапіць уладу ў Эстоніі і абвясьціць далучэньне яе да ССРР.

У зьвязку з гэтым арыштаваны адзін з сябраў Радавай місіі ў Эстоніі, быццам скампрамітаваны ўчасьцем у змове.

## Кангрэс транспартных работнікаў.

У Гамбургу адбыўся міжнародавы кангрэс транспартных работнікаў (чыгуншчыкаў і іншых). Кангрэс, паміж іншым, прыняў рэзалюцыю аб сацыялізацыі срэдзтваў транспарту (чыгунак і г. д.). Далей кангрэс выразіў пратэст проці аддачы нямецкіх чыгунак заграніччным капіталістам і, наагул, проці накладаньня на Нямеччыну залішніх цяжараў, руйнуючых яе гаспадарку.

## Сялянскае паўстаньне і белы тэрор у Баўгарыі.

Перасьледаваньне сялянскай партыі, якая нядаўна праз урад Стамбулінскага кіравала краем, узнаві-

# „COR ARDENS“.

**К. Сваяк. „Мая Ліра“.** Беларускае Выдавецкае Таварыства. Вільня—1924 г.

I.

„Ня пішу я для забавы,
„Ні для бліхтру, ні для славы,
„Ні на сьмех табе, бязьверца:
„Пішу я, бо *плача сэрца.*
„*Сумна страшна* думкі рвуцца,
„У сіню даль, як рой нясуцца,
„У ціхі гай, дзе ўсенька чуе,—
„*На прыгон, дзе брат гаруе.*
„Злажыць песьню ледзь умею,
*Ад тых думак аж мадзею,*
**„Сэрца мне агнём пылае,**
„Аж загублена сканае.
„Прачытай маю ты „Леру“,
„*Бо я сам сабе ня веру,*—
„Ці пісаць мне, ці стрымацца,
„*Каб на зьдзек чартом ня даца*?

Вось як сам сябе характэрызуе сумна-малаверны, баючыся „зьдзеку чартоў“, паэт.

І трэба прызнаць, — характэрызуе вельмі ўдачна!

Можна сказаць наагул, што найлепшую ацэнку—ў сваёй паэтыцкай сьвядомасьці, ў сваёй, так сказаць, душэўнай споведзі—ў сваёй паэзіі—заўсёды дае сабе сам паэт.

Паэзія таксама, як рэлігія ці любоў, асьвятляе жыцьцё навокал і ўнутры чалавека — да апошняй глыбіні — сьвятлом абсалютнай праўды, перад якім ня могуць схавацца ніводзін цёмны кут, ніводная фальш, ніводнае самазванства.

Гэтая „паэтычная споведзь“ перад самім сабой, можа яшчэ больш поўна і праўдзіва, чым перад духаўніком, ці перад жывым люстрам кахаючых дзявочых вочак, ня толькі раскрывае, але і сцаляе душу і ўсю істоту паэта, даючы яму таксама быццам запраўднае „адпушчэньне грахоў“, „адкупленьне“ і „новае жыцьцё“, чысьцейшае вышэйшае.

Вось дзеля чаго запраўдныя паэты, у натуры якіх многа гэтай уласнай „адпускаючай грахі“, сцаляючай душу *ласкі*, не баяцца ніколі адчыняць у паэтыцкай споведзі — сваю душу да апошніх глыбін, прызнавацца сабе і паказаць сьвету найстрашнейшыя хібы і раны сваей душы.—Бо гэтым і толькі гэтым шляхам магчыма для іх „адкупленьне“ ад тых „чартоў“, зьдзеку якіх гэтак баіцца наш паэт.

Але „адкупляе“ паэта з яго „грэхапакутнага суму“ ня толькі асабістая драма яго паэтычна-творчай споведзі: кожны запраўдны паэт носіць у сваей душы ў той ці іншай меры і душу свайго народу, носіць яго „грахі“ і болі, і дзеля таго запраўды сцаляючай для паэта можа быць яго паэтычная споведзь толькі тады, калі яна **ўсенародная**.

Бо кожны, каму дадзена паэтычнае слова, жыве ня толькі, а можа і ня гэтулькі за сябе і для сябе, як для народу: яго паэтычныя споведзі і „камуніі“, у якіх расьце і крэпне яго душа, і *другім памагаюць „зьбіраць“ сваі душы, разглядацца ў іх, узрашчываць, сцаляць і ўзмацовываць іх.*

Бо бяз гэтай дапамогі паэта, як душы людзей, так і Душу Народную, патроху і паціху, але ня менш жудасна і пэўна, таўчэ і распыляе жыцьцёвая драбяза, забівае руйнуючы сілы сум, пазбаўляе надзеі і веры пануючы гвалт, уціск і зьдзек розных аспэктаў тых „чартоў“, якіх гэтак баіцца малаверны Сваяк.

І вось запраўды паэт робіцца быццам *праўдзівым сьвятарнікам—капланам* сярод людзей, праз душу і словы якога плыве ў іх душы—згары ці здолу, а перадусім з нетраў самой усёажыўляючай, ўсёсцаляючай Боскай Прыроды—нейкі быццам Сьвяты Дух,—запраўдная цудатворная ласка.

І не дарма сучасны дасьлед псыхалёгіі паэтыцкай творчасьці *прыраўноўвае лірычную эмоцыю да рэлігійнай*, якая таксама, праз малітву, зьбірае, ўзмацоўвае і вызваляе душу.

Гэткім чынам мы бачым, што ў запраўднай гэтак званай „вызваляючай“ паэзіі, як наагул у кожным запраўдным мастацтве, павінны быць заўсёды *два* гэтыя галоўныя мамэнты—так сказаць, мамэнт „*пакуты*“ *і* „*адпушчэньня*“,—у якіх адбіваецца *глыбока-рэлігійны характар паэтычнай творчасьці.* Праходзячы праз асабістую драму тварца, гэты аснаўны рух захоўваець у паэтычным слове ўсю дынамічную моц уплыву на іншыя душы.

У кожным запраўдным творы паэзіі заўсёды павінна быць *праўда жыцьцёвай рэальнасьці* і адпавядаючая ёй сумная, часам жудасная, паняволіваючая душу, прыніжаючая яе „пакутай“, споведзь; але на гэтым запраўдная паэзія ня можа ніколі затрымацца, бо разам з тым з найглыбейшых крыніц натуры паэта зараз-жа насустрэчу гэтаму суму рэальнасьці, гэтаму „*чортаву зьдзеку*“ наплывае ўжо *вызваляючая* душу, паднімаючая яе ўвыш *сьветлая* хваля нейкай вышэйшай рэальнасьці,—як быццам сьветлае войска ангелаў з песьняй сьпяшыць на ратунак паэту.

Гэтая цудатворная *сіла-ласка*, што сваім радасным рытмам як быццам на запраўднай хвалі паднімае душу, прабуджаючы ў забітай і паняволенай зямной пакутай душы яе *ўласныя вольныя рытмы—варунак яе радаснага ўзросту*, — і ёсьць тое, *што ў паэзіі, а можа і наагул у мастацтве, трэба назваць Музыкай.*

Ня цяжка зразумець, што можа быць ня толькі музыка тонаў, слоў, але і музыка лініяў, формаў і фарбаў.

Як бачым, кожнае праўдзівае мастацтва мае так сказаць *дынамічны* характар. — Толькі гэтым тлумачыцца *сіла яго ўплыву на душы.*

Цяпер ужо агульна прызнана, што бяз гэтай „сілы“, бяз гэтай *музыкі*—ў гэтым раскрытым намі значэньні слова — ня можа быць запраўднай, так сказаць, *суцэльнай* паэзіі.

Той ці іншы верш можа быць вельмі лоўка *зроблены*, можа быць вельмі трафны, як абраз жыцьця, як апісаньне таго ці іншага псыхалягічнага зьявішча, можа быць нават шчыра „выцяр-

лася з нячуванай сілай. Гэта выклікала рад сялянскіх паўстаньняў, якія бязьлітасна падаўляюцца ваеннай сілай. У Старай Загоры ідзе крывавы бой. Генаральны сэкрэтар сялянскай партыі арыштаваны і прывезены ў вастрог у Софію. У месьце Лом забіты паліцмэйстар. Міністар справядлівасьці даў ваенным судом спэцыяльныя паўнамоцтвы: засуджываць аканчальна і выпаўняць сьмяротныя прысуды, не чакаючы зацьвярджаньня вярхоўнага суда.

### Радіч вярнуўся у Югаславію.

Правадыр харвацкіх незалежнікаў Радіч, у зьвязку з пераменай ураду ў Сэрбіі, вярнуўся на Бацькаўшчыну. На граніцы яго затрымалі, але, як пасла, праверыўшы дакумэнты, пусьцілі. Апошні час Радіч быў у Маскве, дзе прымаў учасьце ў працы Сялянскага („Зялёнага“) Інтэрнацыяналу.

### Югаславія і Грэцыя процi Баўгарыі.

Грэцыя і Югаславія аканчальна згаварыліся ў справе супольнага выступленьня процi Баўгарыі і на яе граніцы зьбіраюць моцныя атрады войска.

### Вялізарны выбух парахоўні ў Амэрыцы.

У штаце Тэнэсі здарыўся ў гэтых дзях вялізарны выбух урадовай фабрыкі пораху. Шкоды ад выбуху налічана больш за 20 мільёнаў даляраў. Зьніштожана каля 40.000 пудоў пораху. Лічба ахвяраў яшчэ ня выясьнена.

### Проціанглійскі рух у Ягіпце.

У зьвязку з напружанымі адносінамі да англійцаў у Ягіпце, у Каіры была сутычка паміж ягіпецкімі і англійскімі жаўнерамі.

У бойцы англійцы пачалі страляць, забілі 10 і ранілі 9 ягіпецкіх жаўнераў.

### „Чорны кангрэс“.

У Нью-Іорку ў пачатку жніўня пачаў працу вялізарны кангрэс прадстаўнікоў 400 мільёнаў нэграў усяго сьвету. Задача „Кангрэсу чорных“—выпрацаваць плян барацьбы за раўнапраўе з белымі расамі.

У праграме Кангрэсу — залажэньне ў Афрыцы яшчэ аднэй нэгрскай рэспублікі, апрача ўжо існуючай Лібэрыі, а таксама—„нэгрскіх лігаў“ (зьвязкоў) ува ўсіх дзяржавах сьвету.

Далей у праграме стаіць справа ўваходу прадстаўнікоў чорнай расы ў Лігу Народаў і — барацьба з амэрыканскім фашызмам „Ку-Клюкс-Клянам“, які ставіць сабе мэту поўнага зьніштажэньня „нябелай косьці“ ў Рэспубліцы...

## Лёндонская Канфэрэнцыя.

### Францускай дэлегацыя варочаецца.

Прыехаўшы ў Парыж Эрыо канфэраваў з найвыдатнейшымі палітычнымі і фінансавымі дзеячамі і, пасьля аканчальнай нарады аб сваім дакладзе ў Радзе Міністраў, атрымаў поўнае адабрэньне для сваей палітычнай лініі на Канфэрэнцыі. У хуткім часе ён з сваімі міністрамі мае вярнуцца ў Лёндон.

### Першая ўмова.

Нямецкая дэлегацыя падпісала ўмову з Камісіяй адшкадаваньняў — у справе ўзаемнага выпаўненьня пляну Доўса.

### Амністыя ў Руры.

У Лёндоне на Канфэрэнцыі прыняты праект аб амністыі ў акупаваным Рурскім абшары. Амністыя датычыць усіх праступленьняў, якія не прычыніліся да сьмерці.

### Скірмунт у Эрыо.

Польскі пасол у Лёндоне Скірмунт, прыняты Эрыо, прасіў яго у перагаворах Францыі з Англіяй адносна т. званых „гарантыяў бясьпечнасьці“ прыняць пад увагу „асаблівае палажэньне Польшчы, як усходняга суседа Нямеччыны“.

Можна прыпомніць тут афіцыяльную заяву Мак-Дональда аб тым, што „ніводзін магчымы ўрад у Англіі ня возьме на сябе абавязку ваяваць у выпадку нападу на Польшчу“.

## ХРОНІКА.

**Цэнны набытак.** Музэю ім. Ів. Луцкевіча ў Вільні ўдалося раздабыць цэнны набытак: у абмен на украінскі друк „Апосталы і Эвангельле“, з друкарні Паўла Домжыва Лютковіча ў Угорцах, 1620 г., львоўскі украінскі музэй згодзіўся даць яму адзін з беларускіх пражскіх друкаў Скарыны 1517 году: „Кнігу Царстваў“.

Друк гэты ў хуткім часе будзе прывезены ў Вільню і папоўніць нястачу нашага музэю, якой зьяўлялася адсутнасьць друкаў Скарыны.

**Літэратурныя навіны.** У 350 ыя ўгодкі заклядзін першае украінскае друкарні Д-р Іларыон Сьвенціцкі, дырэктар Украінскага Нацыянальнага Музэю ў Львове, выпусьціў у сьвет вельмі цэнную кнігу: „Початки книгопетаня на землях Украіни“. У гэтай капітальнай працы многа месца ўдзелена і нашаму беларускаму старому друкарству, што робіць яе асабліва цікавай для нашага грамадзянства.

Кніжка багата ілюстравана зьнімкамі з украінскіх і беларускіх старадрукаў і застаўкамі з старых кніг (85 стр. тэксту і больш за 500 рысункаў).

**Архіяп. Хвядос—у Пачаеве** Віленскі архіяпіскап Хвядос паехаў у Пачаеўскі манастыр—на паседжаньне праваслаўнага Сыноду, на якім будзе разглядацца справа Віленскае Духоўнае Сэмінарыі.

**Зьезд старостаў у Вільні.** У Вільні адбыўся зьезд „крэсавых“ старастаў Віленскага Адміністрацыйнага Вокругу.

Зьезд быў склікаты Дэлегатам Ураду п. Раманам—па жаданьню генарала Рыдза-Сьміглага. Як відаць, зьезд стаіць у сувязі з праектаванай мілітарызацыяй паліцыі для барацьбы з бандытзмам.

**Неспадзяваны вынік.** З Дзісьненшчыны нас паведамляюць, што там пашырэньнем поўурадовае газэты „Грамадзянскі Голас“ займаюцца, зусім натуральна, агенты і „канфідэнты“ палітычнае паліцыі. Аднак, сялянства, якое прывучана ўжо сумнай практыкай *баяцца* атрымліваць беларускую газэту наагул, баіцца і гэтае бязумоўна легальнае газэты! Гэтак тыя, хто раней тэрарызаваў нашых чытачоў, цяпер самі прымушаны тлумачыць, што выпісываньне і чытаньне беларускіх газэт—гэта зусім не „праступленьне“, а права кожнага...

Дзякуй і за гэта!

## Жыцьцё Горадні.

(*Ад ўласнага карэспадэнта*).

Беларускае жыцьцё у Горадні ў свой час, як кажуць, кіпела. Быў Беларускі Нацыянальны Камітэт, Белар. Школьн. Рада, Беларускі Камітэт помачы пацярпеўшым ад вайны і іншыя беларускія арганізацыі. Улада зьліквідавала ўсе гэтыя беларускія інстытуцыі. Але калі тады больш увагі зьвярталася на праявы нацыянальнага беларускага жыцьця, дык цяпер выступаюць на сцэну усё мацней і мацней праявы клясовага работніцкага жыцьця ў Горадні, дзе пераважаючую частку работнікаў складаюць беларусы. Работнікі ў Горадні аб'яднаны ў саюзы (табачнікаў, работнікаў па дрэву, краўцоў, дворнікаў і інш); усе профэсіянальныя саюзы злучаны ў Радзе Саюзаў. Найбольш многалюдным зьяўляецца саюз работнікаў па дрэву, бо сяброў гэтага саюзу налічаецца да 1200 асоб. Наймаладзейшым і, здаецца, пакуль што найбяднейшым зьяўляецца саюз дворнікаў, але і гэты саюз ў апошні час шчыра бярэцца за культурную працу і на зьбіраньня з сваіх сяброў складкі закладывае сваю бібліятэку-чытальню. У вечары 3 гэтага жніўня адбыўся сход саюза дворнікаў Горадні ў памешканьні Рады профсаюзаў. На сход саюзу быў запрошаны дэпутат Сойму, сябра Белар. Пасольскага Клюбу, грам. П. Мятла, які выступаў з прамовай у гэты дзень на вялікім мітынгу на пляцу ў Горадні. Сардэчна спатканы усім сходам, дэпутат Мятла ў гадзіннай прамове абрысаваў сучаснае палітычнае палажэньне ў Польшчы, жыцьцё народных меньшасьцяў у Польшчы, законадаўства па работніцкаму пытаньню і патрэбу сталага змаганьня за сусьветныя клясавыя работніцкія і сялянскія ідэалы.

Гучнымі воплескамі сход падзякаваў беларускаму дэпутату ў канцы яго прамовы. Гутарка і адказы на запытаньні самага разнавіднага зьместу зацягнуліся да позьняга вечара.

Наагул трэба сказаць, што як мітынг у дзень 3.VIII на пляцу (аб якім была справаздача ў № 25 „С. Б.“), так і гэты ў салі Рады профсаюзаў зрабілі на прысутных добрае ўражэньне. Трэба, каб часьцей заглядалі беларускія паслы ў нашую старую Горадню. Надта усе шкадуюць у нас, што дагэтуль трымаюць ужо 15 месяцаў ў вастрозе нашага дэпутата Сяргея Барана, хворага чалавека, (праўда, наконта лёсу яго ў нас ходзяць самыя розныя чуткі і нават радасныя), і што да гэтага часу на месца С. Барана ня маем мы другога сталага дэпутата ад Горадзенскага вокругу. А гэтую бяду трэ' было-б даўно ўжо паправіць.

N.

## Весткі з вёскі.

### Яшчэ аб Жыровіцах.

У адным з нумароў нашае газэты ўжо было зьмешчана паведамленьне аб тым, як жывуць праваслаўныя ў Жыровіцах. Да гэтага атрымалі мы яшчэ колькі новых даных.

Даведаўшыяся аб тым, што ўвечары з 1-га на 2-е гэт. месяца ігумен Ісідар мусіць забраць з царквы вядомы абраз Б. М., народ пасьля вячэрні ня выходзіў

---

цены“, даючы дакладны — жудасна - балючы — абраз запраўднага цярпеньня. Але бяз уласнага вызваляючага творчага рытму парадзіўшае гэны твор сілы, без яе індывідуальнай, радасна-трыумфуючай над абразамі жыцьця душэўнай стыхіі, жывой душы паэта, бяз гэтай, каротка кажучы, астаўшайся ад яе творчага акту ў вершу Музыкі гэты верш ня будзе суцэльнай паэзіяй. — Бо ён перад усім *ня будзе мець сілы*, і дзеля таго нічога *ня зьменіць* на сьвеце, не парушыць душаў, не мадніме нікога ўвыш, не падойме і ня зьніме ні з кога ніякага цяжару.

Каратка кажучы, ён ня зробіць у душэўным сьвеце ніякай, як кажуць фізыкі, *работы*, бо, паўтараем, гэта можа рабіць толькі тая ці іншая *сіла*, той ці іншы аспэкт *энэргіі*.

Гэткая „паэзія“ будзе запраўды быццам „споведзь без адпушчэньня“ і без „камуніі“, пакута без адкупленьня,—будзе толькі *страшыць і руйнаваць душу бязвыхадным сумам*—адчаем...

---

Сум, туга, жуда, якія плывуць у нашу жывую сьвядомасьць звонку ці знутры нашае душы, *зусім рэальна звужаюць і руйнуюць* нашае „я“, калі яно ня мае на гэтых „ворагаў“ і „шкоднікаў“ моцнай і трывалай апоры ў тэй ці іншай *„сыстэме арганізаванага оптымізму“*, які павінен быць індывідуальна (маральна) і калектыўна (нацыянальна) абаснаваны... (глядзі арт. „Гэтым пераможаш“ у зборніку „Заходняя Беларусь“).

Асабліва ў паэта гэты оптымізм павінен быць, як ясна з вышэйшага, *перадусім натуральна-першародным, рэлігійна-біалягічным*, мець жывую непарваную сувязь з жывымі творчымі крыніцамі Прыроды. Толькі тады ў яго паэзіі будзе тая цудатворная сіла, што мы назвалі Музыкай.

Толькі такі паэт не давядзе другіх, бо ня дойдзе сам,—да адчаю, безнадзейнасьці і бязверыя.

Найярчэйшы прыклад гэткага „паэта бяз музыкі“ дае нам вядомы расейскі пісьменьнік Андрэеў, які ад страхаў жыцьця дайшоў да апошніх рубяжоў адчаю, да „чорных правалаў“ „Апошняга Нішто“.

Найвышэйшым выражэньнем гэтай усюды разьлітай у Боскай Прыродзе Музыкі, гэтага як быццам Бога-Айца ў сусьвеце, — у чалавечым сьвеце зьяўляецца Любоў, якая у Эвангельлі нават проста названа Богам.

Дзеля таго зусім ясна, што Любоў, якой павінна быць пранікнута кожная запраўдная паэзія, павінна якраз перадусім радзіцца ад гэнай Сусьветнай Музыкі—вольна і радасна, у сьвятарным натхненьні, як Сын родзіцца ад Айца. — Толькі тады *і ад гэтага Сына* ў паэзіі, як і ад Айца ў Прыродзе, будзе выходзіць запраўдны жыва-і цудатворны Дух...—Толькі тады гэтае „Слова“ паэзіі будзе папраўдзі Духам і Любоўю...

І наадварот,—калі гэтае Слова ў паэта адарвецца ад свайго Бога-Айца, страціць пачатна-біалягічную моц і рытм гэтай сусьветнай Музыкі, дык адразу траціць і ўсю сваю сілу...

І не спасе тады і не дапаможа ніхто і нішто на сьвеце: споведзь „жраца паэзіі“ адразу траціць усю сваю „благодать священства“, якія-б рэлігійныя словы і абразы ён ні паўтараў,— хаця-б паэт быў нават сам запраўдным капланам з прафэсіі...

---

„Ці гэткі суровы прысуд ужо спаткаў нашага паэта?“—запытаецца чытач.

На гэта трэба шчыра адказаць: пакуль што—не! але пагроза гэткага лёсу над ім вісіць зусім выразная...

Трэба перадусім сцьвярдзіць, што галоўнай рысай творчасьці Сваяка зьяўляецца якраз *адсутнасьць раўнавагі* паміж сумам „пакуты“ і радасьцяй музыкальнага „адпушчэньня“.

У паэзіі Сваяка перадусім мала гэтай першатворнай—„онталягічнай“ Музыкі...

Вось дзеля чаго ў яго

„*сумна страшна* думкі рвуцца“...

Паэт мае ў сябе мала радасна-творчай моцы, мала адраджаючай, сцаляючай ад атручываючага суму сілы, і дзеля таго ён сам прызнаецца:

„ад тых думак *аж мадзею*“...

Дзеля таго паэта зусім *рэальна забівае* гэты бязсільны, пасыўны сум—

„сэрца мне агнём пылае,
„аж *загублена сканае*!“

кажа ён сам у „Прадмове“...

Але, як пабачым далей, „загублена канае“ ў гэтым сумна-пылаючым, цёмным агні нават *хрысьціянска-рэлігійная сіла яго душы—яго вера*...

Спачатку паэт „сам *сабе* ня верыць“, але пасьля з гэтага паэтыцкага саманедаверыя даходзіць амаль не да таго самага „бязверыя“, якое ў Прадмове асуджае ў другіх...

І ўсё гэта—толькі простыя вынікі таго, што ў паэтыцкіх імшах Сваяка *по-мала арганаў, сьпеву*,—мала Музыкі..

---

„Ці пісаць мне—ці стрымацца“?—

малаверна пытаецца паэт.

На гэта мы павінны адказаць лішне скромнаму паэту становчым заклікам: Пісаць!

Бо пакуль яшчэ сэрца, у якім шчыра пылае агонь запраўднай, хаця і беднай Музыкай, Любві да свайго яшчэ вонках забітага, але неяк ужо пазбаўляючагася адвечнага суму і страху, народу, пакуль гэтае сэрца яшчэ не сканала, але жыве, яно, відаць, мае даволі гаручага матэрыялу, каб ня толькі асьвятляць *вышэйшым нябесным* сьвятлом жыцьцё і душу нашага народу, але трохі і саграваць яго зямным агнём...

На гэтую надзею дае права тое, што *ўжо ёсьць* у першай кніжцы паэта, тое, што гэтае cor ardens дало нам у сваей „Ліры“.

Да пабежнага агляду ўсяго багацьця гэтай сумнай, беднай Музыкай „Ліры“ Сваяка мы і вернемся наступным разам. **Суліма.**

(Далей будзе).

